# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 194


* ✲ *

*Каханне гэта ўступкі*
*самаахвярнасць*
*самазнішчэнне*
*буралом у пушчы пачуццяў*
*і адраджэнне*
*і смутак такі вясёлы*
*такі бяззлобны*
*і неразумны*
*што каб напіўся*
*лекавых зёлак*
*дык мабыць на ўсё гэта плюнуў бы*
*але бяссільны*
*тут нашы галовы*
*і хіба ўсё тут акрэслена богам*
*таму будзь заўсёды гатовы*
*узыйсці на шаленства дарогу.*

**Алесь Барскі**



## НА НОВЫМ СВЕЦЕ КОНЬ СТАРЫ

Заблытаўся сярод машын
Старэнькі конь на Свеце Новым.
На гулкай вуліцы — адзін,
Аб асфальт цокаюць падковы.

Навокал сотні конскіх сіл,
А у яго адна, слабая.
У вочы шчыпле дым і пыл,
Што коні-волаты ўзнімаюць.

І здзекваюцца ліхтары,
І клаксан стаўся хуліганам.
На Новым Свеце конь стары
Мо ўжо апошнім ветэранам.

**Віктар Швед**




**НІНА МАТЫСЮК**



Нарадзілася я ў 1955 годзе ў вёсцы Старакорнін на Гайнаўшчыне, у сялянскай сям'і. Пачатковую школу закончыла ў Чыжах, а затым паступіла ў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Закончыла ліцэй у 1974 годзе. Цяпер вучуся ў Аполі ў Педагагічным інстытуце на рускай філалогіі.

* ✲ *

**Памяці настаўніцы**
**Мар'і Швед**

*Мастак*
*пакінь крыклівы колер*
*сваіх карцін*
*паэт*
*не выпускай з рукі*
*пяра*
*прынамсі сёння*
*спыніся ля акна*
*і глянь уніз*
*што бачыш?*
*зялёныя хмары*
*блакітныя дрэвы — кажаш*
*чаму так гаворыш*
*паглядзі*
*там у белых воблаках*
*чуваць горкі плач*
*там у белай сукенцы*
*вуалі*
*дзяўчына вянчаецца...*
*твар яе тоне ў кветках...*
*яшчэ ўчора была з намі*
*а сёння падарылі мы ёй*
*у далёкую дарогу*
*белы шаль*
*з чорным надпісам...*

* * ✲ *

**Міші**

**Przebaczenia piękniejsze są od zemsty**

Так цяжка перапрашаць
не ведаўшы
за што
за што — пытаю сябе
так цяжка...

Шукаю віны
пераглядаю
дзень за днём
хвіліну за хвілінай
нялёгка знайсці
свае памылкі

(гэта казаў матэматык
пры дошцы стаяў
не памятаю хто)
і далей
шукаю віны...

Непакой прыйшоў нізкуль
сціснуў плечы і грудзі
спалоханыя вочы
хацелася заплакаць
хай прыйдуць слёзы
не слёз няма
непакой прыйшоў...

Непатрэбныя сцэны
мгляна стаяць перад вачамі
уцячы б ад іх
але ўпарта дасягаюць
нікуды ад іх не ўцячы



ты! ты! стаіш
і я...
непатрэбныя сцэны...

Адно імгненне
і тут — ужо ўсё знаю
хочацца крычаць не мая віна
ты дрэнна зразумеў
ніхто і ты не чуеш
і здаецца так мала
а як многа
адно мгненне...

Прабач
(а можа ты зусім не гневаешся
штось мне так здаецца)
усё будзе добра
няпраўда што жыццё
толькі крыўдзіць
(помню ты так гаварыў)
усё будзе думаю добра...

**Ірэна Баравік**

## ПСАЛОМ БАЦЬКУ

убегла я ў бацьку
цераз райскія вароты
саламянай страхі
проста на ток у гумне

дрыжачае пасма
сіваватага сонца
прысела на кукішкі
на запэцканым
мухамі вобразе

калісьці бацька
карміў яго
лепшым сенам
убачыўшы мяне ў сабе
палажыў мне
на шчокі
залаты сон яблыка
і ў кальцы з ракіты
зашчабяталі птушкі
а потым авёс
расшаптаўся
і было залацiста
а над галавой
кучаравыя баранчыкі
няслі ў зяпе
крылы анёлаў

**З. Сачко**

## *ГЛЯНЬЦЕ!*

*Гляньце!*
*Там, пад небам, на вяршыні ўзвышша*
*Стаіць самотная тапо*ля.
*Стаіць,*
*Як пальма на беразе мора*
*(незабыўнае ў снах дрэва),*
*Як небасяжны манумент-статуя*
*На некранутым фоне неба,*
*Як бяскрылая маці, што на світанні*
*Ідзе выглядаць свайго сына,*
*Як сімвал вечнага чакання —*
*Маці без сына і без арэола...*
*Гляньце! . . . . . . . .*

**Юрка Баена**



## ПІСЬМО ДРУГУ

Мой друг, прыязджай у госці,
Заходзь, не стукай у дзверы,
Размовы на ноч хопіць,
Будзе чарка к вячэры.

Успомнім старыя мары
Раскажам пра тое-сёе...
Я пра свае дарогі,
Ты аб прыгодзе новай.

Здаецца, нядаўна ў школу
Хадзілі „воляй-няволяй",
Табе ўжо без года трыццаць,
А мне — на месяц болей.

А помніш белую Маньку,
Што „кошкаю" празвалі?
— У яе, брат, сямейка згодна,
Няраз хрысціны гулялі.

А помніш, як на паляне
Мы боса ў „ката" гулялі?
Цябе называлі „Ванька",
Мяне „Міколкам" звалі!..

Ну што ж, Іван Пятровіч,
Я рад, чакаю дужа,
Старое сяброўства не гіне,
Сяброўству будзь верны, дружа.

**Мікалай Варанецкі**

* ✲ *

Не пахіляй галоўкі нізка,
Твару ў далоні не хавай.
Ты назаўсёды будзеш блізкай
Са мной у радасці трываць.

Таго саромецца не варта,
А на людзей махні рукой
І адказы часамі жартам,
Што гэта ім наперакор.

Хоць наша шчасце іх гаворкай,
Радасны смех і бляск вачэй,
Хтось уздыхне часамі горка,
А гляне — зробіцца лягчэй.

Бо наша шчырае каханне
Спавіта радасцю жывой,
Душы гарачай хваляванне
Нас заклікае за сабой.

**Л. Танкевіч**

* ✲ *

У букет жоўтых
павялых кветак,
хтосьці пасадзіў
лялькў...
Якая прыгожая і
вясёлая,
без плям грахоў —
залатая з сваёй задумай,
ціхім маўчаннем.

Зайздрошчу ёй бездумкі,
пусткі ў целе,
што яна без сэрца,
без лёгкіх,
ўцягваючых
марознае паветра
жыцця.
Неразумная,
а такая шчаслівая.
Нічога не знае
а ўсё смяецца.
Такая малая, дурная лялька...

**Ніна Гаўрылюк**

## АДНОЙЧЫ

Юзік пайшоў ускрай тратуара. Уступаючы ў сухі снег, адчуваў у чаравіках, як рабілася цяплей; яны са свіной скуры.

Ад аўтобуснага вакзала задувала смажанай рыбаю. І ляпей было не глядзець у канец Юравецкай, дзе местачковыя хаты...

У Юзікавым жыцці нешта здарылася. Менавіта і назваў гэта, як — „нешта". Мо, — што зайшоў сюды без патрэбы? Без чакання кагосьці з-за лясоў, з сіняга аўтобуса далёкага маршрута. З Крынак...

Чаравікі з рэдкай свіной скуры.

„Халера, холадна!" — падумаў Юзік. Яму цікава было глядзець. І не адразу зразумеў ён, што чагосьці шукае. Нечага падобнага да таго, што сустрэў зусім неспадзявана, сёння. Нешта такое, ад чаго пуста, пранізліва пуста!

Па людзях не відаць.

**Сакрат Яновіч**

Калі памру, не будзе ўжо гарачыні вуснаў, арамату кветак. Не будзе і цябе, як многага другога, чым жыў. І не будзе жалю па мінулым і будучым, і не адзавецца ні сумленне, ні свядомасць памылкі. Буду шчаслівым да канца сваіх дзён, таму што дыхаў паветрам і карыстаўся сонцам, зямлёю і вадою, як дабром, дадзеным многім. І да канца буду спакойным, да канца якога дня

## РЭФЛЕКСІІ

— ніколі не буду пэўны. Не буду зайздросціць тым, што карыстаюцца з поўні маладосці, і кветкам у час іх квітнення, таму што ўсё адыдзе тым жа шляхам. Чаканне канца не павінна засланяць радасцяў жыцця, з якога зачарпнуць мы павінны як найбольш. Сходы, па якіх зыйду ў няведамае, пратаптаны мільёнамі тых, што былі прада мною, і я не буду апошні. Хай абыякавым мне будзе дзень нараджэння і смерці. Свет не заўважыў факту майго нараджэння і не заўважыць маёй смерці, а яна не зменіць яго бегу. Не заўважыў існавання, як адной з многіх праблемаў. Адыдзем са свядомасцю бязвартаснасці адной грудкі зямлі ў вялікай зямлі, элементам якой мы былі. Свядомы блізкага ці далёкага канца — не буду сумаваць. Гэта парадак, якому падлягае ўся прырода... і які мы лічым за звычайны, хаця ён і крыўдны. Усміхнуся да смерці, як небяспекі, якой гаджуся, і буду спакойным. Хай не трывожыць мяне кароткасць жыцця і свядомасць, што не многае мне ўдалося. Не буду зайздросціць тым, якім хацеў бы дараў-

(Працяг на стар. 4)

# НЕ КНІЖКА, А ДАВЕДНІК

(Працяг са стар. 1)

вучальнага дапаможніка, у ролі ўдзельніка ўрокаў па беларускай мове.

Якое ж агульнае ўражанне застаецца ад прагляду ўсіх дзевятнаццаці выданняў „Беларускага календара“? Шчыра кажучы, уражанне паспешлівай работы. І невыпадкова, бо ж да нядаўняга часу адсутнічала пастаянная рэдакцыя яго; падлічыўшы, даведаемся, што змянілася аж дзесяць галоўных рэдактараў гэтага, побач „Нівы“, найбольш рэгулярнага беларускага выдання ў нас. У такой сітуацыі кожны наступны рэдактар „Беларускага календара“ пачынаў сваю дзейнасць на пустым месцы і, пераважна, на грамадскіх пачатках. Набраўшыся арыентацыі ў магчымасцях ды тэрмінах — кароткіх! — звычайна панікаваў, хапаўся за ўсенька аб'ёмістае, прыдатнае ў дзейнасці БГКТ, за п'есы, даклады, песні, літаратурныя творы, манаграфічныя аналізы, артыкулы... Дзеля захавання ідэі календара як такога, дадаваў — апрача календарыума — нешта аб мінеральных угнаеннях (напр. фельетонік працавітага Сухажэбрскага), перадрукоўваў табліцу аб пакрыванні самак, знаходзіў рэцэпт засолу агуркоў (з папярэдняга выдання), крыху пагарэзіў пра палавыя органы паводле кніжкі „Молодым супругам“, яшчэ сёе-тое...

Усё-такі атрымоўваліся, замест календароў, нейкія альманахі актыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у пяцітысячных тыражах, надзвычай высокіх! З празмернай колькасцю публікацый накшталт перадавых артыкулаў.

Словам, у іх — залішне газетная пабудова, журналісцкі прынцып набору матэрыялаў.

У паасобных „Беларускіх календарах“ змешчана шмат каштоўнага, вартага асобнага выдання (пасля некаторай перапрацоўкі ў сэнсе паглыблення ды пашырэння тэмы). Маю на ўвазе, прыкладна такія працы, як „У кругу вызваўчых спраў“ (1964 г.), „Школьная справа і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух“ (1967 г.), „Гутаркі па роднай гісторыі“ (1969 г.) „Між Бугам і Нарвай“ (1971 г.), „У сяброў над Шпрэвяй“ і інш.

Што асаблівага можна сказаць аб „Беларускім календары“ на 1975 год? Надта ж на месцы выдаўся мне рэпартаж „З ільнянню Буга“. Як і ўвогуле ўтрыманне раздзела „Люблю наш край“, які аднак яшчэ не з'яўляецца калядарным п а к а з а м таго, **чым мы сталі болей слаўныя за мінулы год.** Чым? Як? Кім?... (Сюды, у гэты раздзел, варта было аднесці „Неспакойныя гады“, а нават — „Грамада праз 50 год“.)

Мала прадуманы раздзел — „На палях і заводах Беласточчыны“. Някепскія гутаркі М. Сухажэбрскага, змешчаныя адна за другою, патрабуюць ад гаспадара не абы-якой чытачоўскай зацятасці, каб прабіцца праз іх метафорыку, літаратуршчыну. Цалкам іншае было б гучанне гэтых гутарак, размешчаных на прасторах агранамічнай ды заатэхнічнай інфармацыі, арыентаванай на гаспадарчую спецыфіку геаграфічных ваколіц паветаў.

Іншых заўваг не маю; яны паўтараліся б з ужо сказаным ад пачатку. Хіба што... сёлетняя вокладка ўдалася несамавітай, са страшнай бабай Ягой!

Пачалася падрыхтоўка „Беларускага календара“ на 1976 год: будзем святкаваць дваццатую гадавіну Беларускага грамадска-культурнага таварыства і беларускага тыднёвіка „Ніва“. У будучым календары хацелася б знайсці поўную ды падрабязную хроніку, летапіс беларускага жыцця ў Народнай Польшчы. Частковую бібліяграфію таго жыцця знаходзім у апошнім „Навуковым зборніку“, у календарах на гады 1971, 1966 і 1960. У іншых — таксама нямала зараз незаўважанага, забытага... Па крупінцы трэба б пазбіраць традыцыі, без якіх не можа быць гутаркі аб сённяшнім.

**Сакрат Яновіч**

**Ад рэдакцыі:** Дык якім павінен быць наш каляндар? Пытанне надалей адкрытае. Артыкул С. Яновіча лічым першым словам у дыскусіі. Запрашаем да яе чытачоў „Календара“.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### НАЙВЫШЭЙШЫ ЧАЛАВЕК

Найвышэйшы чалавек нашых часоў нарадзіўся ў 1918 г. у ЗША. Ва ўзросце 22 год ён памёр, меў тады 270 см вышыні і каля 220 кг вагі. Калі было яму 6 месяцаў, важыў 13 кг, 2 м росту меў, калі яму споўнілася 16 гадоў.

Другім такім чалавекам быў жыхар Расіі, рост якога дасягаў 268 см.

Найвышэйшая жанчына дасягнула росту 265 см. Памерла яна ў Парыжы ў 1884 г. ва ўзросце 18 гадоў.

Найменшым чалавекам свету лічыцца жыхарка Галандыі. Мела яна толькі 38 см росту, што раўнаважна больш-менш бутэльцы віна. Была яна сёмым дзіцём у сям'і. Апрача яе, усе астатнія члены сям'і былі нармальнага росту.

(ті)

### НАЙДАРАЖЭЙШЫ ЖУРНАЛІСТ

Найдаражэйшым журналістам быў Ернест Хэмінгуэй. За рэпартаж аб паядынку быкоў, які складаўся з 2000 слоў, патрабаваў ён 30.000 долараў, што ў выніку дае 15 долараў за адно слова.




*Геракл з парка былога палаца Браніцкіх у Беластоку.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*



## Актывістка БГКТ

Сімпатычная дзяўчына Валя Ціханюк (вуч. Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы) з'яўляецца актыўным БГКТ-оўскім дзеячом. Ужо чацверты год яна выконвае функцыю старшыні 12-асабовага гуртка БГКТ у вёсцы Гародчына Гайнаўскага павету. Гарадчанскі гурток — адзін з актыўнейшых у павеце. Усе члены БГКТ пастаянна робяць падпіску на „Ніву“ і распаўсюджваюць беларускія календары. У мясцовай школе арганізуюць яны сустрэчы з беластоцкімі літаратарамі, урачыстасці з нагоды знамянальных гадавін і дзяржаўных святаў, вельмі любяць глядзець рускія кінафільмы і г.д.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**

## Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

*ХРЫСЦІННАЯ*




*Як гуляла, то гуляла,*
*Бо мне мама позволяла,*
*А тэпэрка: люлі, люлі —*
*Мінулісе мое гулі.*
*А тэпэрка: люлі, люлі —*
*Мінулісе мое гулі.*
*І тэпэрка бы я ешчэ*
*Рада собе погуляті,*
*Оно ліхо мне мой мілы*
*Кажэ іті спаті.*
*Оно ліхо мне мой мілы*
*Кажэ іті спаті.*
*Цэлу ночэньку дітіну*
*Мушу колыхаті.*
*Он гуляті нэ пускае,*
*І нэ могу спаті.*
*Он гуляті нэ пускае,*
*І нэ могу спаті.*
*Я дітіну колыхала,*
*Он на ложэчку лежав —*
*Колыханку я співала,*
*Он помалу засынав.*
*Колыханку я співала,*
*Он помалу засынав.*
*І дітіну і мілого*
*Я нараз прыспала,*
*А сама я потіхоньку*
*Вышла й погуляла.*
*А сама я потіхоньку*
*Вышла й погуляла.*

Ад Валянціны Здраеўскай, 1930 г. нараджэння, вёска Шчыты Бельскага павету, запісаў 8 кастрычніка 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

(Працяг са стар. 2)




**званага хуткага сну. Ці не маглі б вы расказаць дакладней аб гэтай стадыі сну?**

— Раней мы лічылі, што на працягу ночы глыбіня сну ўвесь час узрастае, а затымападае, нібы ўзыход на горку і хуткі спуск з гары. Цяпер жа ўстаноўлена, што адразу пасля павольнага сну наступае хуткі, і ноччу гэта змена адбываецца не менш 4-6 разоў. Гэта падобна на катанне з амерыканскіх горак: узыход — спуск, узыход — спуск і гэтак далей, да перапынку.

Даказана, што абсалютная большасць людзей бачыць сны у перыяд хуткага сну. Сны паяўляюцца 4-6 разоў за ноч, гэта значыць столькі разоў, колькі мы пераходзім праз стадыю хуткага сну. Мы падлічылі: кожны чалавек праводзіць у снабачаннях не менш 4-5 год.

**— Некаторыя людзі вераць у сны амаль як у прыкметы. І сапраўды, некаторыя сны збываюцца. Чым гэта можна вытлумачыць?**

— Яшчэ Сечанаў цікава заўважыў: „Сны — гэта небывалая камбінацыя бывалых уражанняў“. Думаю, у кожнага бачанага сну ёсць рэальная аснова. У снах выражаюцца нашы мары, радасці, перажыванні, смуткі, якія здараліся ў жыцці. У час сноў чалавек працягвае заставацца той жа асабовасцю, той жа індывідуальнасцю, як і ў перыяд няспання, але выражае свае думкі ў свабаднейшай, у больш вызваленай форме.

Удзень мы стараемся адагнаць ад сябе многія трывожныя думкі. Напрыклад, у нас нехта цяжка хварэе ў сям'і. Зразумела, мы моцна жадаем выздараўлення сваіх блізкіх і гонім ад сябе трывогу. Але ў час сну, не будучы стрыманай, думка аб цяжкім заканчэнні выплывае, і часам здараецца, што праз некалькі дзён сапраўды наступае смерць. Сны-прадказванні — гэта прадукт асэнсоўвання жыццёвых сітуацый. І калі прыходзячыя ў сне думкі і планы маюць пад сабой рэальную аснову, дык існуе пэўная верагоднасць іх ажыццяўлення.

Наогул, інфармацыя аб тым, што той ці іншы сон збыўся, распаўсюджваецца з гіганцкай хуткасцю. Ёю дзеляцца з усімі. Аднак мы рэдка расказваем аб снах, якія не супадаюць з падзеямі ў жыцці, і яны хутка забываюцца. Іменна такіх сноў большасць.

**— А творчасць у сне? У сваёй кнізе вы пішаце аб выпадках з біяграфій Дэкарта, Гауса, Гельмгольца, Бетховена, Пушкіна, Грыбаедава, Маякоўскага... А савецкі грасмейсцер Анатоль Карпаў у 1973 годзе ўбачыў у сне ход, які даў яму ратунак у адкладзенай шахматнай партыі.**

— Людзі творчай працы працягваюць думаць і тады, калі, здавалася б, не думаюць аб працы, незалежна ад таго, спяць яны ці не. Здараецца, рашэнне прыходзіць у час сну. Азарэнне прыходзіць раптоўна, але яно не нараджаецца з нічога. Гэта плод сістэматычнай, хоць не заўсёды свядомай працы мозгу.

**— Можа, каб рашаць нейкія задачы, варта канцэнтраваць на іх перад сном усю сваю ўвагу?**

— Думаю, не варта пацяшаць сябе надзеяй азарэння. Адкрыцці, вынаходніцтвы, вобразы, ідэі мастацкіх твораў ноч звычайна прыносіць людзям, якія шмат і плённа працуюць, накопліваюць у памяці шмат ведаў, бязмежна любяць сваю справу, аддаюць ёй сябе ўсяго. А чалавек, які не прызвычаіў сябе да працы, які не вельмі цікавіцца праблемай, недастаткова паглыбіў веды аб ёй, не можа разлічваць, што вырашыць яе вось так, між іншым, паламаўшы галаву гадзінку перад тым, як аддаць сябе ў абдымкі Марфея для прыемных сноў. Азарэнне прыходзіць у сне толькі людзям працавітым, ведаючым і ўмелым.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

# ВЯРБА

Сімвал вярбы носяць людзі, што **нарадзіліся паміж 1-10 сакавіка і 3-12 верасня.** Праверце, ці рысы іх характару згаджаюцца з нашым гараскопам.

Са сваёй меланхалічнай прыгажосцю вярба мае ў сабе нешта далікатнае, і гэта, калі б нават было толькі з выгляду, робіць яе вельмі прывабнай (асабліва, калі з'яўляецца ёю жанчына). У вярбе адчуваеш нешта таямнічае. Яна поўная няясных думак і незразумелых пачуццяў, якія ёй і самой цяжка было б назваць...

Вярба вельмі інтэлігентная, любіць сонечнае цяпло, ваду, чулая на ўсялякія пахі і смакі. Як ніхто іншы, умее выкарыстаць уцякаючы час і выкарыстоўвае кожную найменшую радасць.

Не вер занадта ў яе спакойную міну. Нягледзячы на яе вонкавы выгляд, характарызуе яе працавітасць і рашучасць. Вярба ведае добра, чаго хоча сама, толькі ніколі нічога не накідае іншым. Не любіць яна загадваць, характарызуе яе вялікая талеранцыя.

Ёсць у вярбе нешта з паэта, адсюль крыху меланхалічны спосаб жыцця. Часамі яна задумваецца над надыходзячай восенню ці сэнсам жыцця, аднак у сапраўднасці не бывае яна ніколі сумная. Няма ў яе сапраўднага песімізму, ёсць толькі крыху дражнячая думка аб яе своеасаблівасці.

Вярба бывае партнёрам досыць цяжкім, бо не адразу прыстасоўваецца да сітуацыі, не любіць кампрамісаў. Яе безабароннасць і незараднасць — гэта часта тактыка. Часамі для жарту, а часамі нават калі трэба, дасканала ўмее іграць ролю слабой істоты. Уласна кажучы, умее ў жыцці дасканала бараніць сябе.

У пачуццях вярба бывае больш рамантычная, чым сентыментальная. Вярба наогул не любіць пачуццяў штодзённых, звычайных.

Вярба часта бывае здольнай у артыстычных напрамках. Не бракуе ёй інтуіцыі і фантазіі, з'яўляецца таксама добрым псіхолагам і часта ўмее адгадваць думкі іншых.

Яе жыццё магло б плысці зусім спакойна, калі б не асаблівыя схільнасці да... любоўных цярпенняў. Можна сказаць, што яны ёй нават неабходныя, прыцягваюць яе, правакуюць. І калі пазней яна будзе скардзіцца, не вер ёй — пачуццё, не акрашанае цярпеннем, было б для яе пазбаўленым сэнсу.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




# З бульбы

Як вядома, у гэтым годзе ўраджай гародніны не быў надзвычайны. Дажджлівае лета не спрыяла яму. Бульбы, аднак, не бракуе, дык на прадвесні варта выкарыстоўваць яе як найчасцей. Сёння падаем два рэцэпты на даволі арыгінальныя стравы, не шырока вядомыя на Беласточчыне.

### ФАРШЫРАВАНАЯ БУЛЬБА

Выбраць аднолькавыя па размеру клубні бульбы (адзін кг), ачысціць яе, памыць і выразаць з кожнай бульбіны сярэдзіну. Затым кожную бульбіну зрэзаць з аднаго боку так, каб можна было яе паставіць. Вырэзаную частку зварыць у пасоленай вадзе і расцерці, каб было пюрэ. 5-6 сушаных грыбоў (у сезоне можна ўзяць свежыя) адварыць, пасля дробна нарэзаць, паджарыць на масле і змяшаць з бульбяным пюрэ. У фарш дадаць яйцо, соль і чорны перац па смаку. Гэтым фаршам напоўніць бульбіны, палажыць іх у рад на змазаную тлушчам бляшку, паліць тлушчам і дадаць крыху вады. Пасля гэтага запячы бульбу ва ўмеркавана гарачай духоўцы. Падаючы на стол, можна паліць бульбу смятанай (калі хто любіць).

### САЛАТ З БУЛЬБЫ З САСІСКАМІ (ПАРОЎКАМІ)

1 кг бульбы ў лупінах адварыць, астудзіць, а пасля гэтага ачысціць і нарэзаць кружочкамі. Зварыць некалькі сасісак. Нарэзаць таксама кружочкамі, змяшаць з бульбай, вылажыць у салатніцу і заліць соусам, падрыхтаваным з 5 сталовых лыжак расліннага масла (алею), 2 лыжак воцату (3-працэнтнага), 3-4 зубкоў часнаку, 1 сталовай лыжкі гарчыцы (муштарды), солі і чорнага перцу па смаку. Салат падаюць, зразумела, у халодным відзе.

Падобны салат з бульбы беластаччане могуць пакаштаваць у новаадкрытым беластоцкім рэстаране „Гродна". Салат робіцца з бульбы і мяса (варанага або печанага), да яго дадаюць яшчэ цыбулю, кіслы агурок і вараныя крутыя яечкі. Салат запраўлены маянэзам, або маянэзам, змешаным са смятанай. Вельмі смачны!

### ФАРШЫРАВАНАЯ БУЛЬБА З МЯСАМ

Калі ўжо мы пры бульбе, дык варта сказаць і аб спосабе падрыхтоўкі фаршыраванай бульбы на Беласточчыне. Наогул спосаб гэты вельмі просты, а на дадатак танны. Найлепш узяць для гэтай мэты свініну. Прапусціць яе праз машынку, пасаліць, пасыпаць перцам, дадаць яйцо, дробна нарэзаную цыбулю і сцерці на дробнай тарцы сырую бульбіну. Бульбу для запякання падрыхтаваць, як у першым рэцэпце. У выразаную сярэдзіну кожнай бульбіны накладаць фарш. Палажыць бульбу на бляшку фаршам уверх і запячы.

**Гаспадыня**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ці людзям, якія з'яўляюцца інвалідамі з дзіцячых год, прыслугоўвае пенсія, калі іх бацькі атрымоўваюць пенсію за перададзеную дзяржаве гаспадарку?

АДКАЗ: Няма закону, які прадбачыў бы прызнаванне пенсіі інвалідам, няздольным да працы ад дзяцінства, якія ніколі не працавалі. Атрымоўванне пенсіі за перададзеную дзяржаве гаспадарку бацькамі правоў на пенсію іх дзецям-інвалідам не дае.

Калі сын або дачка бацькоў, якія атрымоўваюць пенсію за гаспадарку, з'яўляецца інвалідам І або ІІ групы і знаходзіцца на ўтрыманні бацькоў, то пасля смерці бацькі або маці або аднаго і другога — могуць атрымаць па іх сямейную пенсію велічынёй у 45 працэнтаў пенсіі, якую атрымоўвалі бацькі. **Пакуль бацькі жывуць, пенсія дзецям-інвалідам, якія знаходзяцца на іх утрыманні, не прыслугоўвае.**

Членам сям'і, якія атрымоўваюць сямейную пенсію, калі яны залічаны да І групы інваліднасці, на аснове 24 артыкулу закону з 26.X.1971 г. аб перадачы сельскіх гаспадарак ва ўласнасць дзяржаве за пенсію і грашовыя сплаты, прыслугоўвае дадатак велічынёю ў 500 зл. у месяц, а калі інваліднасць прызначана ў выніку слепаты — 800 зл. у месяц.

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Слабодка Гайнаўскага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Чытаю я кожны нумар „Нівы", а найбольш мяне цікавіць, што ты ў кутку „Сардэчныя тайны" раіш дзяўчатам і хлопцам. Я таксама звяртаюся да цябе за парадай. Жыву на гаспадарцы. Астаўся адзін у бацькоў, сястра жыве ў горадзе. Маю добрую гаспадарку, амаль усе машыны. Хацеў бы ажаніцца, бо ўжо мне 27 гадоў, але ніяк мне гэта не ўдаецца. Пазнаёміўся з Галяй, доўга сябравалі, гаварыла, што кахае мяне, а калі запрапанаваў, каб выйшла за мяне замуж, дык адказала, што ахвотна, але на гаспадарку не пойдзе. Хоча жыць у горадзе. Так і кончылася наша каханне. Неўзабаве яна і выйшла замуж, вядома, у горад, а я астаўся. Моцна перажыў гэта і, калі крыху абнудзіўся, сябра пазнаёміў мяне з вельмі мілай дзяўчынай Ірай. Вельмі мне спадабалася, яна з суседняй вёскі. Часта я яе наведваў і бацькам яе спадабаўся. Але яна таксама хацела б у горад, хаця закончыла толькі пачатковую школу. Яна так катэгарычна, як Галя, мне не адказала, што толькі ў горад і ўсё, але ўсё-такі я баюся ўжо больш успамінаць аб жаніцьбе, каб і гэта мяне не пакінула. А хадзіць абы хадзіць, мне не цікава. Парай, „Сэрцайка", як паступіць, як пераканаць Іру, што і на вёсцы можна жыць не горш, як у горадзе. Я працаваў крыху ў горадзе, нацешыўся і на вёсцы многа лепш сябе адчуваю. Я не там, а тут бачу сваю будучыню.

**Валодзя з Сакольшчыны**

Валодзя! Разумна думаеш. Маладым дзяўчатам здаецца, што ў горадзе дык і рабіць нічога не трэба. А да жыцця ў горадзе трэба быць прыгатаваным, мець прафесію. Вы абое з вёскі, маеце якраз вопыт у працы на зямлі. Вялікай палёгкай у працы з'яўляюцца машыны, а ты іх маеш. І калі ўмела гаспадарыць, дык сапраўды можна багата жыць. Пастарайся гэта растлумачыць Іры. Думаю, зразумее.

**„Сэрцайка"**




Начальнік віленскай чыгуначнай станцыі не ўмеў растлумачыць Лосеву, у якім месцы паміж Саколкаю і Беластокам знаходзіцца гара. З'яўляўся ён свежым тут чалавекам.

— Паклічце каго з машыністаў, — загадаў яму Лосеў.

— Ёсць! — адказаў па-вайсковаму.

Ён досыць хутка прывёў машыніста, які па-памяці мог бы нават нарысаваць віленска-беластоцкі шлях. Ці ёсць гарыстыя месцы на шляху? Ого, яшчэ колькі! Ці перад Гроднам ёсць? Вядома, што ёсць: і перад Гроднам, і за Гроднам! І за Саколкаю? І за Саколкаю ёсць! Колькі кіламетраў за Саколкаю? Пытаеце, колькі? Так! Каб вам не змахляваць, ваша броддзе, гэта гара будзе за Саколкаю ў якіх-небудзь дваццаці кіламетрах... Паблізу якой мясцовасці? Блізка Махнача, ваша броддзе... Перад Чарноўсю.

Лосеў акуратна запісаў: Махнач, наступны прыпынак — Чарновесь. („Там Уладка Гіміка мы ўзялі, здаравеннага беларуса, які са сваёй групай меў базу ў Дубраўках і Сцюдзянках", — успомнілася Лосеву справа з вясны 1863 г.).

— Вы ўпэўнены ў назве мясцовасці, паблізу якой знаходзіцца тая гара? — палкоўнік трымаўся адной, манатоннай манеры размовы. — Іншай вялікай гары, узвышша паміж Саколкай і Чарноўсю — няма?

Начальнік станцыі абліў машыніста страхам.

— Ёсць, каля Генюшоў, але не такая вялікая, — у машыніста бегалі вочы. Ён не цяміў, у чым справа. — Ля Генюшоў лепей раскопана... — удакладніў, называючы незразумелыя тэхнічныя даныя.

— Можаце ісці.

Здараецца ў следчай практыцы такое, калі без доказаў вядома, чаго трэба чакаць. Пачутая Лосевым бесклапотная гутарка ў рэстаране выдалася яму апавяданнем сведкаў пагоні сышчыка за Марыяй Грыгатовіч. У правай частцы патыліцы свідраваў галаву мацнеючы, колкі боль. Гэтак заўжды ў палкоўніка, калі інтуітыўнае прадчуванне ім праўды пераўтвараецца ў перакананне. „З праўдай, быццам з задніцай, — кожны сядзіць на сваёй," — закпіў з сябе, дзесьці прачытаным, даўно.

Дэпеша ў Саколку: расставіць казацкія патрулі на дваццаць пяць кіламетраў у глыб лясоў ад населенага пункта Махнач, падазроных даводзіць у Саколку для распазнання.

Палкоўнік Лосеў выехаў туды.

Перад ад'ездам лепшых сышчыкаў адкамандзіраваў спецыяльна для высочвання таго мужчыны, што заходзіў у кватэру Марыі Грыгатовіч, на Зарэчанах.

Выехаў строга сакрэтна.

* * *

Дзень прамінуў на рыхтаванні начнога паходу.

Грыгатовіч пацыравала стараватую хусту, у якой мелася ісці.

Вільдовіч не адзываўся да яе. Ён перагледзеў зброю, лазіў на гарышча хаты, наводзіў лад у каморы.

Не паказваліся на панадворку.

Вечар выдаўся шчаслівы, пахмурны і цёмны.

Навокал — неверагодная ціш. Крокі чуваць аж у небе!

— Мы не бачым і нас не бачаць, — пажартаваў Вільдовіч. Гэта былі яго першыя словы.

Не паспелі паглыбіцца ў лес, як далёка за вёскаю, на гасцінцы, заіржалі коні і застракацела казацкая лаянка.

— Патруль, — Вільдовіч намерваўся сказаць штосьці, але раздумаў.

Скінуў з пляча стрэльбу.

— Хутчэй! — зашаптаў пранізліва.

Яна паспявала за яго хадою. Па твары секла абледзянелае голле. Знаходзіліся ў арэшніках, беглі да ельніку, што за беласнежнасцю чарнеў жахлівым абрывам.

З-пад ног выскачыў заяц, запішчаў па-дзіцячаму. Завыў воўк, цягнучы сваю несамавітую песню. А мо ган'ё?! Грыгатовіч адчула, што цячэ ў яе па спіне пот і прыліпае да цела бялізна.

Наперадзе бяспечна маячыў стары. Раптам, дзесьці перад ім, узняўся грукат ды гуканне, ажно лес захістаўся ўваччу!

— Цьфу, каб вас халера пабрала! — вылаяўся ляснік. Ён абмяк, абціраў лоб. — Змучылася пані? — запытаў яе.

Марыя Грыгатовіч не магла схапіць духу.

— Адпачнем, во тут, — ён падыйшоў пад нізкую яліну, пад якою цямнела кастрыца. — Сядаць нельга, аддыхаемся стоячы; так ляпей. Не прамерзнем, — закончыў.

Пастаялі.

— Дзікі? — загаварыла.

— Цэлая чарада засела. На зіму.

— Хо, горача...

— Мароз. Суха.

— Хмарыцца, на змену пагоды.

— Як адчуваеце сябе? — старому, відаць, прыкра, што і сам перапужаўся.

— Вытрываю, — адказала яму. — Бадай недалёка?

— Го-го, і паловы не прайшлі мы! —

# ТРЫБУНА чытачоў

## МАРНАТРАЎСТВА

На станцыі Бельск Падляшскі амаль штодзённа разгружаюць вагоны з таварам для Бельскага ГС-у і ПЗГС-у. Працуюць пры гэтым працаўнікі гэтых прадпрыемстваў. Стараюцца хутчэй зрабіць сваю работу. І ўсё было б добра, каб не той факт, што, спяшаючыся, абыякава выконваюць свае абавязкі. Нагружаюць поўныя прычэпы з вярхушкай. Каштоўны тавар ляціць з аўтамабіляў і трактараў і застаецца ля вагонаў. Шафёр, едучы на склад, згубіць па дарозе таксама крыху. Вуліцы, якімі возяць тавар на гэсаўскі склад, засыпаны вуглём, штучнымі ўгнаеннямі і г.д. Залатоўкі ляцяць у балота. Цікава, чаму гэтым ніхто не зоймецца? Хіба загадчык склада бельскага ГС ніколі не мае нястачы?..

**Мацейка**

## ЗАКОНЧЫЦЬ

У Крывяцічах у мінулым годзе распачалі ўкладваць тратуары. На жаль, работа не была закончана ва ўсім сяле. Прыдалося б закончыць работу. Сяляне не пашкадуюць грамадскай працы, каб толькі гміна памагла.

**І. Кірызюк**




* ✲ *

*Заплаканы дажджом*
*і снежнем*
*прэч пайшоў*
*стары год*
*Толькі людзі*
*нязнаным радуюцца*
*Нулёва гадзіна*
*радасці*
*варыцца ў галовах іх*
*Думаю — не*
*Пайду ў дарогу няведамую*
*Пайду*
*дзе яшчэ не бываў*
*Што сустрэне мяне*
*Жыцця свежы*
*пачаўся*
*этап.*

* ✲ *

### ЁН

па кветках хадзіў
кветкі таптаў
кветкі сціраў
на кветках спаў
кветкі цалаваў
на кветкі пясок сыпаў
па кветках хадзіў
кветкі дзяўчыне даваў

**Юрка Хмялеўскі**

## ПАЖАРНІКІ З ПАСЫНАК

Добраахвотная пажарная каманда ў Пасынках была арганізавана ў 1966 г. Адразу з'явілася 16 ахвотных. Ад пачатку пажарнікі ўключаюцца ў шпаркае грамадскае жыццё. Аднак праца нейк не складваецца.

Карта дасягненняў запаўняецца пасля выбараў у 1968 г. Новае праўленне, узначаленае Аляксандрам Кобусам і прэзасам Мікалаем Весялоўскім, развівае дзейнасць. Апрача прафілактычнай працы, пажарнікі выконваюць з энтузіязмам грамадскую працу. Будуюць драўляную паветку для маторнай помпы. Праз нейкі час вырастае мураваная, кошт якой ацэньваецца на 70 тыс. зл. Павятовая пажарная каманда ў Бельску Падляшскім за добрую працу прызначае Пасынкам, як узнагароду, аўтамабіль „ЛГМ-8" з маторнай помпай. Гэта дадае яшчэ больш энтузіязму пасынкаўскім пажарнікам. Будуюць два супрацьпажарныя вадасховішчы. Кошт пабудовы — 150 тыс. зл.

Цяпер добраахвотная пажарная каманда ў Пасынках налічвае 18 чалавек.

— У бліжэйшы час, — гаворыць начальнік Аляксандр Кобус, — хочам правесці масавую прафілактычную працу сярод насельніцтва. Імкнемся, каб у нашых вёсках было найменш пажараў. Маем дасягненні ў гэтым напрамку. Стараемся таксама заваяваць адно з вядучых месц у павеце. А самае галоўнае, гэта пабудова сучаснага пажарнага дэпо з святліцай. Ці справімся з гэтымі заданнямі, час пакажа.

**Мацейка**

## ЖУРНАЛІСТЫ Ў БЕЛАВЕЖЫ

У канцы студзеня ў Белавежу прыехала 27 замежных журналістаў, акрэдытаваных у Польшчы. Яны прадстаўлялі 12 дзяржаў: СССР, ГДР, Кітай, Фінляндыю, Югаславію, Швецыю і інш. Удзельнічалі ў прэс-канферэнцыі, арганізаванай Міністэрствам лясніцтва і дрэваапрацоўчай прамысловасці пры ўдзеле „Інтэрпрэсу", наведалі таксама пад кіраўніцтвам др інж. Чэслава Аколува Прыродазнаўчы музей і запаведнікі прыроды і зуброў.

Замежныя госці вельмі цікавіліся жыццём Белавежскай пушчы. Многія будуць пісаць пра яе ў прэсе сваіх краін.

**П. Байко**

## ТРЭБА ЗРАБІЦЬ

З Бельска праз Орлю-Крывяцічы-Стары Корнін у Дубічы Царкоўныя ездзіць аўтобус. Гэта вялікая палёгка сялянам і вучням. Ды на сваёй дарозе аўтобус паміж Орляй і Крывяцічамі мае ў некаторых месцах глыбокія выбоі. Добра было б, каб і ўлады гміны, і ўсе жыхары паклапаціліся і правялі рамонт гэтай дарогі.

**І. Кірызюк**





## ГУРТОК „АРОЛ"

У Орлі існуе паляўнічы гурток „Арол". Члены яго ў сезоне арганізуюць паляванне на птушак і звярыну. Яны таксама ловяць жывых зайцаў, якіх наша краіна за дэвізы высылае ў заходнія краіны. На зіму паляўнічыя паставілі на палях кармушкі з кормам для птушак і звяроў.

**І. Кірызюк**

З ЖЫЦЦЯ МОЛАДЗІ

## У Гайнаўскім ліцэі „100 дзён"

Быў пагодны студзеньскі дзень, субота. У Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы святочны настрой. Праз некалькі гадзін чацвёртыя класы збяруцца ў вялікай зале дома культуры „Гурнік".

А 18 гадзіне ў прыгожа прыбраную залу пачынаюць прыходзіць госці: 19-ая гадзіна. Пад гукі паланеза Агінскага ўваходзіць у прасторную залу парамі моладзь, пачынаецца карагод. На цэнтральным месцы стаяць прафесары беларускага ліцэя на чале з дырэктарам Уладзімірам Сцепанюком і выхаваўцамі IV класаў Яўгеніяй Буйноўскай і Васілём Сакоўскім. Карагод набліжаецца да іх. Усе захоплены выкананнем гэтай часткі.

Потым выступае дырэктар ліцэя. Жадае вучням усяго найлепшага, каб паспяхова здалі экзамены, каб усе паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і шчасліва іх закончылі. Потым гавораць прадстаўнікі моладзі: Ніна Тафілюк з IVa — гаспадар класа і Косця Ваўрэшук — старшыня школьнага самаўпраўлення, актывіст гайнаўскага аддзела БГКТ. Яны шчыра вітаюць на супольным вечары сваіх прафесараў, гасцей, а таксама бацькоўскі камітэт, які з'явіўся сёння ў поўным складзе.

Далейшая частка ўрачыстасці праходзіць згодна з планам. Прыгожа іграе аркестр з Чаромхі-вёскі, дзяўчаты ў доўгіх спадніцах, белых блузках, прыгожыя прычоскі. Хлопцы па-святочнаму адзеты, стройныя.

— Прыгожая ў беларускім ліцэі моладзь, — гавораць людзі.

Сярод прысутных бачым таксама выпускнікоў ліцэя, якія ўжо вучацца ў вышэйшых школах. Доўга будуць помніць „стаднёўку" Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы ўсе тыя, хто быў на гэтай урачыстасці. (вб)

## ЗСМВ У МІХАЛОВЕ

У міхалоўскім ГОК-у адбылося пасяджэнне гміннага праўлення ЗСМВ. Маладыя гаварылі пра заданні і працу ў мінулым і намецілі планы на будучыню. У плане на 1975 г. важныя пункты: памагчы пры пабудове стадыёна ў Міхалове, купальнага басейна пры агульнаадукацыйным ліцэі і інтэрнату пры школе механізацыі сельскай гаспадаркі.

Паасобныя члены праўлення атрымалі пад апеку па некалькі вясковых гурткоў. Плануецца таксама падрыхтаваць акадэмію з выпадку XXX гадавіны перамогі над фашызмам.

Міхалоўская моладзь, згуртаваная ў ЗСМВ, будзе ўдзельнічаць у акцыях „Вясна чынаў", „Кожны колас на вагу золата", „Збіраем асеннія плёны" і іншых.

**ОзВ**

## ВЯЛІКАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ

25 студзеня г.г. адбылася ў Бельскім эканамічным ліцэі традыцыйная „стаднёўка". Андрэй Марганскі адкрыў гэты вечар і пажадаў вясёлай забавы. Іграў „Універсал" з Беластока. Група дзяўчат з IVц класа выступіла з кароткай мастацкай часткай. Потым усе пайшлі на вячэру. Яе падрыхтавалі вучні і бацькі. Пасля вячэры зноў былі танцы. Калі „стаднёўка" закончылася, усе пайшлі дамоў. Вучні апошніх класаў ліцэя цяпер лічаць ужо дні да матуры.

**Жэня Аўсенюк,**
Бельскі эканамічны ліцэй

## НА КАНІКУЛАХ

Некаторыя гайнаўскія прадпрыемствы і кааператывы штогод арганізуюць дзецям сваіх працаўнікоў ёлку. Такую ёлку арганізавалі ў час зімовых канікул Гайнаўскае паштовае ўпраўленне і ПЗГС. Дзеці пілі чай і атрымалі цікавыя падарункі.

**Э. Вайсковіч**

## НЕДАГАВОРАНАСЦЬ

Недалёка ад Бельска расцягнулася маляўнічая вёска Пасынкі. Гэта адна з прыгажэйшых вёсак Бельшчыны. Брукаваная вуліца, тратуары, вулічнае асвятленне. Прыемна пайсці такой вёскай і паглядзець на прыгожыя сялібы, на чысціню і парадак. Адразу відаць, што жывуць тут працавітыя людзі.

У вёсцы ёсць зборная школа, пошта, злеўня малака, крама. Шырокую дзейнасць разгортвае мясцовы МБМ. Аднаго не хапае жыхарам Пасынак — святліцы. Ёсць, праўда, невялічкі пакойчык у гаражы пажарнай каманды. Тут у апошні час адбываюцца вясковыя забавы. Ды хіба ж гэта адпаведнае месца на культурную дзейнасць?!

Аказваецца, была калісьці магчымасць пабудаваць святліцу ў Пасынках. Пачуў я вось наступную гісторыю, якая і дагэтуль хвалюе людзей у вёсцы. У 1966 годзе вёска заваявала вядучае месца ў конкурсе „Найчысцейшая і найгаспадарнейшая вёска Беласточчыны". Атрымала за гэта 120 тыс. зл. узнагароды. Тады і нарадзілася думка аб пабудове святліцы з рамізай. Ды старшыня былой грамадскай рады выкарыстаў узнагароду без ведама жыхароў вёскі. Многа гаварылася потым аб гэтым на вясковых сходах. Людзі дамагаліся свайго. Аднак нічога не дабіліся. Даўней Пасынкі з ахвотай удзельнічалі ў грамадскіх чынах. Памагалі класці брук, тратуары, рабілі складчыну па 100 злотых на вулічнае асвятленне, выкапалі 2 супрацьпажарныя басейны. І вось адно неразважнае рашэнне перакрэсліла ўсё. Людзі трацяць ахвоту да далейшай працы. Цяпер ужо цяжка тут узняць людзей на грамадскі чын. У Пасынках гавораць: калі вернуць нам несправядліва забраныя грошы, тады зноў пачнем работу. Звярнуліся нават з асобым прашэннем у Павятовае Ўпраўленне ў Бельску. Неўзабаве атрымалі адказ, што ўзнагарода была выкарыстана на рамонт вуліцы, дарог і пляцоўкі для гульняў. А людзі сваё: што нічога з гэтага не зрабілася. І так справа чакае канчатковага высвятлення.

**Мацейка**

У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## ПРА ДУБЯЖЫНСКІЯ СТРАХОЎКІ

**Адказвае:**

**Państwowy Zakład Ubezpieczeń Oddział Wojewódzki w Białymstoku.**

W odpowiedzi na notatkę p.t. „Naplątałeś — rozplątaj" dotyczącą wypłaty odszkodowania rolnikom we wsi Dubiażyn za zniszczenia spowodowane letnią burzą w 1974 r. Oddział Wojewódzki PZU w B-stoku wyjaśnia, że sprawę ubezpieczenia ziemiopłodów w 1974 r. regulowało rozporządzenie Rady Ministrów z dnia 1 lutego 1972 r. a w 1975 r. rozporządzenie Rady Ministrów z dnia 20 grudnia 1974 r.

O szkodach powodziowych zaistniałych w łąkach w dniu 18 lipca 1974 r. poszkodowani wsi Dubiażyn zawiadomili Oddział Powiatowy PZU w Bielsku Podlaskim zbiorczym zgłoszeniem, które wpłynęło dnia 29.07.74 r. Na 126 gospodarstw szkody zgłosiło 36 rolników. W dniu 14.08.1974 r. przedstawiciel PZU w obecności przedstawicieli wsi Dubiażyn, wybranych na ogólnym zebraniu zorganizowanym przed rozpoczęciem likwidacji, dokonał lustracji łąk zalanych i ustalił zasięg powodzi.

Po opadnięciu wód w dniu 28.08.1974 r. przy współudziale przedstawicieli tamtejszej wsi PZU ustalił odszkodowania. Przyznano i wypłacono odszkodowanie 36 poszkodowanym w kwocie 75.837.—

Na ustalone odszkodowania poszkodowani wyrazili zgodę i podpisali obliczenia szkód. Ponadto po zakończeniu likwidacji szkód pozostawiono u sołtysa wykaz poszkodowanych do wglądu zainteresowanych.

W dniu 10.08.1974 r. Dyrektor Oddziału Powiatowego przy współudziale przedstawicieli wsi dokonał kontroli likwidacji, przeprowadzonej przez likwidatorów i potwierdził, że likwidacja została przeprowadzona właściwie. Nikt z mieszkańców wsi Dubiażyn nie kwestionował przeprowadzonej likwidacji.

Wobec tego Oddział Wojewódzki uważa, że likwidacja zgłoszonych szkód została przeprowadzona zgodnie z obowiązującymi zasadami. W dniu 21.XI. złożył odwołanie ob. Filipiuk Mikołaj s. Aleksandra.

Na odwołanie wymienionego Oddział Powiatowy PZU w Bielsku Podlaskim wydał decyzję negatywną pismem Nr UM-652/110/74 z dnia 17.XII.1974 r., ponieważ siano wymienionego zostało zebrane z łąki przed wystąpieniem powodzi i nie zostało uszkodzone.

**Zastępca Dyrektora**
**Oddziału Wojewódzkiego**
**Józef Gędzielewski**

---

Вільдовіч хацеў сказаць ёй, што не прайшлі і трэць дарогі.

Дзе Махнач, а дзе — Васількова!

Убок Вярхлесу загрымелі стрэлы, два, адзін за другім. Затым — адзін, і яшчэ адзін. Вецер ішоў гарою, здуваў у нетры накоцістае рэха.

Пасталі.

— Паўстанцы? — Марыя Грыгатовіч усцешылася. Не даводзілася ёй бачыць паўстанцаў у лесе, падчас акцыі.

— Не, пані, — расчараваў стары. — Не так гучаць паўстанцкія стрэлы.

Павярнулі ў зараснікі.

Праз нейкі час выйшлі на прагаліну. Зоркі штораз загараліся ў клоччы нізкіх хмараў і часамі пасміхаўся звысоку відушчы месяц.

Лес западаў пад зямлю, высоўваючы на паверхню пакудлачаныя верхавінкі. Адсюль блізка да лугоў Сакалды, за якою — спакайней.

У Вільдовіча доўгія крокі.

— Госпадзі! — енк з боку, хрып, быццам кагосьці душаць.

Пацярпянела скура.

Ляснік прысеў за ёлачкі. Грыгатовіч з перапуду знерухомела. У месячным бляску вываліўся на прагаліну чалавек. Ён ляжаў тварам уніз, раскінуўшы рукі і падкурчыўшы нагу.

Вільдовіч, са стрэльбаю напагатове, падыйшоў да яго, павярнуў на плечы, снегам абмыў закрываўлены твар, расшпіліў паліто, разарваў цёплую бялізну ды ўзяўся націраць яму грудзі.

— Жыве?

— Націрайце шчокі, вушы, нос, — загадаў ён Грыгатовіч.

Дапякаў мароз, калелі пальцы. Незнаёмы загаварыў без памяці. Грыгатовіч угледзелася ў ягоны твар — як бы не чужы твар...

— Ах! — войкнула, заціснула губы.

Выдыхнуў выразныя словы:

— Напалі! Напалі! ...Верны след! ...Домік лесніка... — намагаўся далей гаварыць, трызніў. — Домік лесніка! — закрычаў.

Вільдовіч здзівіўся.

У чалавека — глыбокая рана на галаве. Перавязалі яе.

— Балюча! — расплюшчыў вочы, яны каціліся пад лоб. — Гаспадзін начальнік... — вышаптаў па-руску. — Парафіяновічу верыць... Верыць! — завыў. — Там тайна тайных... Там!

Абціх.

Ляснік сказаў:

— Скончыўся, сабака!

Ён зразумеў, хто гэты чалавек. І яна зразумела.

— Вас слядзілі? — запытаў яе без лішнеслоўя.

Не адразу адказала яму.

— Думала, уцякла ад яго...

— Уночы ён быў ля хаты. У садку.

— Ён?!

— Так, — стары, нешта пакалупаўшы ў высокіх ботах нябожчыка, з яго акасцянелых пальцаў вырваў рэвальвер.

(Працяг будзе)

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36871.

